ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

Збераґчы і Павялічыць

№3 (81) • САКАВІК 2013

Увага!

***Усіх чытачоў "Дзедзіча" з Днём Волі! Няхай наша краіна заўжды будзе вольнай! Жыве Беларусь!***

# АБВЯСЦІ БНР УНУТРЫ СЯБЕ!

**25 сакавіка 1918 года, 95 год таму, самыя выбітныя сыны сваёй Радзімы абвесцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі – краіны, створанай беларусамі для беларусаў.**

Зараз мы ведаем гэтую дату як "Дзень Волі" і адзначаем яе кожны год 25 сакавіка.

Пакуль Дзень Волі – не дзяржаўнае свята, аднак ад гэтага яно не перастае быць Народным.

Хоць на сучасных мапах няма краіны з назвай БНР, яна па-ранейшаму існуе. Існуе ў сэрцах тых беларусаў, якія адрадзілі гэтую дзяржаву ўнутры сябе , захаваўшы родную мову,культуру і гісторыю.

Калі і ты абвесціш БНР унутры сябе, тады і Рэспубліка Беларусь стане зноў народнай!

## З ДНЁМ ВОЛІ!

**АРР «Дзедзіч» прапануе ўсім ахвотным адзначыць Дзень Волі гульнёй па гарадскім арыентаванні «БНР і Берасце».**

Запрашаем усіх ахвотных - індывідуальна ці камандай.

Лепшых арыенціроўшчыкаў чакаюць прызы, а усіх удзельнікаў - сюрпрызы :)

## ПРАГРАМА СВЯТКАВАННЯ ДНЯ ВОЛІ

**Нядзеля, 24 сакавіка.**

12:00 – Трышынскія могілкі. Збор удзельнікаў і экскурсія. Ускладанне кветак да помніка аднаго з дзеячоў БНР Адама Трыпуса, да помніка ахвярам палітычных рэпрэсій.

12:30 – 15:30 – Гульня па гарадскім арыентаванні "БНР і Берасце" (падрабязнае апісанне будзе дададзена пазней).

15:30- 17:00 – Падвядзенне вынікаў гульні, узнагароджванне пераможцаў, кава-гарбата (офіс АРР «Дзедзіч»).

Усе ўдзельнікі атрымаюць святочныя паштоўкі «З Днём Волі», якія можна будзе даслаць па пошце сябрам і знаёмым, павіншаваўшы іх з галоўным святам Незалежнасці Беларусі.

Дадатковая інфармацыя тут:
https://vk.com/dzien_voli_2013,
або па тэл.: (029) 724-21-16.

УСЕ УЖО 25 СВЯТКУЮЦЬ САКАВІКА!

**dzedzich.org**

У НУМАРЫ:

# БЕЛАРУСЬ И ВЕНЕСУЭЛА ПОСЛЕ СМЕРТИ УГО ЧАВЕСА

***Когда умер Быков, никто не объявил траур***
***Когда умер Мулявин, никто не объявил траур***
***Когда в авиакатастрофе погибла вся политическая элита соседнего государства, никто не объявил траур***
***Когда люди погибли в метро, траур объявили на один день***
***Когда умер Уго Чавес, траур объявили на три дня***

**Пожалуй, смерть лидера Венесуэлы Уго Чавеса стала самым обсуждаемым политическим событием месяца. Белорусам были интересны слезы Александра Лукашенко на траурной церемонии в Каракасе и немножко – перспективы дальнейших отношений Беларуси и Венесуэлы.**

Есть еще несколько стран, лидеры которых отнеслись к смерти Уго Чавеса как к личной утрате. Но в большинстве стран преобладал прагматический интерес: улучшатся или ухудшатся у них отношения с Венесуэлой.




Президент Беларуси, впрочем, тоже задавался этим вопросом. Как сообщает его пресс-служба, белорусский лидер провел 8 марта краткие переговоры с исполнительным вице-президентом Венесуэлы Николасом Мадуро и председателем Национальной ассамблеи Диосдадо Кабельо. «То, что было при Уго Чавесе, будет продолжено», – цитирует пресс-служба слова Николаса Мадуро.

Такие же заверения получили все остальные союзники Венесуэлы. В США же говорят о надежде, что отношения улучшатся. Все упирается в то, изменится ли политика Венесуэлы после Уго Чавеса.

Впрочем, и при известном антиамериканизме Чавеса, Венесуэлу и США связывали тесные торговые отношения. Около 40% добытой нефти венесуэльцы продавали Соединенным Штатам (это более 90% от общего объема экспорта Венесуэлы, то есть от 96,9 млрд долларов). В свою очередь, США по-прежнему продают машины и автомобили и даже увеличили экспорт природного газа и нефтепродуктов в Венесуэлу. На США у Венесуэлы приходится 40,2% экспорта и 28,6% импорта.

А вот Беларуси, несмотря на политическую близость Лукашенко и Чавеса, тесное экономическое сотрудничество с Венесуэлой построить не удалось. В 2011 году доля Венесуэлы составляла 1,6% в общем товарообороте Беларуси, или 1 млрд 359,4 млн долларов, а в 2012 году снизилась на 763,9 млн долларов (почти наполовину!), составив 0,6% товарооборота.

Это все происходило при живом Чавесе, вряд ли что-то может измениться при его преемнике – станет ли им на внеочередных президентских выборах 14 апреля:

- упоминавшийся выше вице-президент Николас Мадуро, приведенный к присяге в качестве и. о. президента по предсмертной просьбе Уго Чавеса;

- или единый лидер оппозиции губернатор штата Миранда Энрике Каприлес, на предыдущих выборах получивший 40% голосов избирателей;

- или даже председатель Национальной ассамблеи Диосдадо Кабельо, к которому по Конституции должны были перейти полномочия и. о. президента, но почему-то не перешли.

Белорусам имеет смысл следить за президентской гонкой в Венесуэле, в которой все далеко не так предрешено, как может показаться без погружения в контекст. Это как минимум интересно.

Вот только на халяву рассчитывать не стоит, так как боливар не вынес политической благотворительности Уго Чавеса и 8 февраля был девальвирован почти на половину. Дефицит бюджета Венесуэлы достиг 17% от ВВП в 2012 году, и государственный долг в процентах от ВВП поднялся до 49%, несмотря на рекордно высокие цены на нефть. Для сравнения: продажа нефти дает Венесуэле около 12% ВВП и около 45% доходов федерального бюджета.

В 2010 году Венесуэла выручила Беларусь поставками нефти во время спора с Россией, который повлек за собой резкое сокращение поставок на белорусские НПЗ. Сейчас вопрос о поставках венесуэльской нефти закрыт.

Между тем в Беларуси не теряют надежды не только на улучшение сотрудничества с Венесуэлой, но также и на то, что Венесуэла профинансирует возведение белорусскими строителями агрогородков в Боливии. Сообщается о нескольких трехсторонних совместных проектах на 2-3 млрд долларов.

«Хочу тебя заверить в том, что Беларусь сделает все для того, чтобы наладить с Боливией такие же отношения, как с Венесуэлой», – цитирует пресс-служба президента Беларуси обращение Александра Лукашенко к главе Боливии Эво Моралесу. Сообщается, также, что президент Боливии поблагодарил за это и попросил «оказать помощь в развитии сельского хозяйства, строительстве агрогородков и жилья, добыче полезных ископаемых, а также в подготовке кадров».

Следует отметить, что Боливия является одной из беднейших и наименее развитых стран Латинской Америки с государственным долгом 34,2% от ВВП. По данным МВФ, за чертой бедности находится около 70 % населения Боливии, что создает проблемы с безопасностью иностранных сотрудников. Как и в Венесуэле, Беларусь может претендовать на добычу углеводородов в Боливии (только уже не нефти, а газа), но это еще меньшая вероятность рентабельности поставок добытого домой.

Николас Мадуро уже отказался выполнять просьбу Уго Чавеса относительно похорон. Вместо этого он приказал забальзамировать команданте и выставить тело в музее революции. Говорят, что мумия Чавеса поможет его политическому преемнику выиграть выборы.

Даже если это случится, вряд ли новый президент Венесуэлы найдет возможность финансировать иностранные проекты, ведь ему уже сегодня приходится брать в долг, чтобы выполнять обязательства у себя в стране. Беларусь тоже просит в долг. Похоже, что белорусско-венесуэльско-боливийским проектам будет очень трудно стартовать. Николасу Мадуро будет проще отказаться выполнять еще одну просьбу Уго Чавеса продолжать начатое дело – по крайней мере в отношении Беларуси.

**Паводле: tut.by**

# КУДЫ ЎСЕ З'ЕХАЛІ?

**Нягледзячы на візавыя заслоны, адрозненні ў культуры і мовах, беларусы імкнуцца з'ехаць не толькі на ўсход. У мінулым годзе болей за 110 тысячаў грамадзян Беларусі мелі права жыць у краінах ЕС. А за 10 гадоў у ЗША перабраўся цэлы горад беларусаў, памерам большы за Ашмяны.**



### ТОП-10 КРАІН ЗАХАДУ, КУДЫ З'ЯЗДЖАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ*

1. Польшча - 61994
2. Нямеччына - 16626
3. Італія - 8417
4. Літва - 4994
5. Чэхія - 4499
6. Гішпанія - 3416
7. Францыя - 2220
8. Латвія - 2164
9. Эстонія - 1964
10. ЗША - 1710

*Колькасць відаў на жыхарства, дзейсных у 2011г. Дадзеныя Еўрастат і Міністэрства нацыянальнай бяспекі ЗША.

Афіцыйна ў Беларусі не вядзецца падлік грамадзян, якія выязджаюць за мяжу. Таму меркаваць пра маштабы эміграцыі і называць абсалютныя лічбы праблематычна. Найбольш характэрным паказчыкам можа быць колькасць відаў на жыхарства, выдадзеных у краінах Захаду беларусам.

ЗА ТРЫ ГАДЫ КОЛЬКАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ ІМІГРАНТАЎ У ЕС ВЫРАСЛА Ў 2 РАЗЫ

І такіх, падаецца, даволі шмат. Паводле дадзеных Еўрастату, не меней за 116 тысячаў беларускіх грамадзян у 2011 годзе валодалі правам пастаянна жыць у ЕС. Гэта роўна ў два разы больш за лічбы чатырохгадовай даўніны: у 2008 годзе відамі на жыхарства ў ЕС валодалі толькі 58 тысячаў беларусаў.

Вельмі часта палітыкі і эксперты кажуць пра тое, што большасць беларускіх эмігрантаў асела ў Расіі. Дакладнай ацэнкі з-за адсутнасці звычайных міграцыйных працэдур няма, але большасць экспертаў, апытаных DW месяц таму, сыходзяцца на лічбе ў 300 тысячаў беларускіх працоўных мігрантаў. Атрымліваецца, што колькасць беларусаў у ЕС, нягледзячы на візавую заслону і іншыя абмежаванні, не такая і маленькая.

Большасць беларусаў, якія маюць віды на жыхарства ў краінах Захаду, атрымалі яго дзякуючы еўрапейскім жонкам, мужам ці бацькам. Тых, хто знайшоў працу, няшмат. І гэта нягледзячы на тое, што апошнім часам ЕС усё больш лагодна ставіцца да беларусаў, якія маюць дастатковую кваліфікацыю і гатовыя працаваць на не самых папулярных на Захадзе пасадах. Гэтак, Нямеччына ў мінулым годзе адкрыла дзверы для праграмістаў і інжынераў з усяго свету ў надзеі прыцягнуць кваліфікаваных супрацоўнікаў у тыя галіны, у якія самі немцы ідуць не гэтак ахвотна.

Выключэнне складаюць беларусы, што маюць права жыць у Польшчы. Гэта прыкладна палова ад усёй беларускай дыяспары ў ЕС, якая ўтварылася літаральна за некалькі год дзякуючы картам паляка — статусу паляка па нацыянальнасці, які не мае грамадзянства Польшчы, але мае права знаходзіцца і працаваць у ёй колькі заўгодна. Болей за 60 тыс. беларусаў мелі польскі від на жыхарства ў 2011 годзе.

## ПРЫТУЛАК ЗА МЯЖОЙ ПРОСІЦЬ УСЁ МЕНЕЙ БЕЛАРУСАЎ

Тыповы прыклад — Нямеччына. Большасць беларусаў маюць права жыць там з-за таго, што маюць сваякоў з нямецкім грамадзянствам. 20-я частка нямецкіх беларусаў вучыцца ў Германіі. Яшчэ каля 100 маюць статус уцекача. І толькі 691 адзін беларус жыў у 2011 у Германіі, таму што меў працу. Болей за ўсё нашых пасля Польшчы працуе ў Італіі — болей за 4 тыс. чалавек знайшлі там працу.

У ЗША сітуацыя падобная: большасць з тых, хто атрымлівае права на знаходжанне ў краіне, звычайна робяць гэта праз сямейныя сувязі. Толькі каля 200 беларусаў у 2011 годзе атрымалі права на пастаяннае знаходжанне ў Амерыцы, дзякуючы новай працы. Яшчэ 356 беларусаў у гэты год атрымалі ў ЗША статус уцекача.

Агулам у Амерыцы прытулку просяць штогод каля ста беларусаў (у 2011 годзе — толькі 66). Гэта ў дзесяць разоў меней за колькасць беларусаў, якія прасілі прытулку щ ЗША дзесяць гадоў таму. Але шанцы атрымаць прытулак усё гэтаксама высокія. Дакладна іх назваць цяжка, але колькасць тых, хто просіць прытулку, прыкладна ў два разы меншая за колькасць тых, хто яго атрымлівае ў наступныя гады.

## З БЕЛАРУСІ Ў ЗША З'ЕХАЎ ЦЭЛЫ ГОРАД

А вось грамадзянства ў Амерыцы атрымліваюць нашмат болей людзей за тых, хто прыязджае і надоўга застаецца ў ЗША легальна. У 2011 болей за 1800 беларусаў сталі грамадзянамі гэтай краіны. Гэта рэкордная лічба за апошняе дзесяцігоддзе. Хаця агулам амерыканцамі за двухтысячныя сталі болей за 15 тыс. беларусаў — гэта болей за насельніцтва такога раённага цэнтру як Ашмяны.

Што да Еўропы, то большасць беларусаў выбірае нямецкае грамадзянства. Эксперты не бяруцца тлумачыць прычыну, аднак звяртаюць увагу на неблагія ўмовы жыцця ў гэтай адной з самых заможных краін свету. Да прыкладу, даследчыкі Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў адзначаюць, што Беларусы найперш жадалі б выехаць у Нямеччыну і ЗША (паводле апытання 2011 году гэтага хочуць болей за чвэрці беларусаў). Аналітыкі звязваюць гэта з добрым стаўленнем да мігрантаў у гэтых краінах і іхняй сацыяльнай палітыкай.

Аднак лічбы тых, хто атрымлівае грамадзянства ў ЕС пакуль мізэрныя. Сітуацыя можа рэзка памяняцца ўжо цягам наступных 5 гадоў, калі большасць цяперашніх уладальнікаў картаў паляка канчаткова ўладкуюцца ў Польшчы. Тады Беларусь недалічыцца не адных толькі Ашмянаў.

**generation.by**

## АДНЫМ РАДКОМ

## «ТОК» — ВЯСНОВЫ СІНГЛ АД VINSENT

**Vinsent нагадвае пра сябе новым сынглам «Tok», які прадстаўляе на Tuzin.fm. І прычыны зьяўлення новага трэку як мінімум дзьве. «Па-першае, урэшце надыйшла вясна, а гэтая песня мае якраз вясновы настрой. А па-другое, выдаю яе цяпер асобна, таму што той матэрыял, над якім я працую ў студыі, будзе значна адрозніваццa ад гэтага сінглу і ад таго, што я рабіў раней», — заяўляе музыкант.**

Vinsent пачаў кар'еру ў музыцы шэсць гадоў таму, зрабіўшы фурор на вечарыне беларускай мовы ў інстытуце журналістыкі.

Тады ж запісаў свае першыя творы ў рэп-стылістыцы і ў кароткі час стаў адным з лідэраў свайго кірунку.

Двойчы ўздымаўся на першую прыступку чарту на «Тузіне Гітоў» з песняй «Адыходзяць караблі» (2008). Два гады таму Vinsent сабраў жывы склад музыкаў і з гэтага часу выступае выключна ў суправаджэнні гурта.

Летась Vinsent прадставіў першы свой сінгл «Ні кроку назад».

Дык а калі альбом? «Праца над ім ідзе, пэўным тэрмінам мы сябе наўмысна не абмяжоўваем. Магу толькі сказаць, што ў ім будуць эксперыменты з электроннай і жывой музыкай, з атмасфернымі і не вельмі тэкстамі».

Прэзэнтацыя сінглу адбудзецца 23 сакавіка ў Празе.

**tuzin.fm**

## ЯК АБДУРЫЛІ НАСТАЎНІКАЎ



**Прыкладам таго, што эканомія дзяржаўных сродкаў можа быць даведзена да абсурда, сталі настаўнікі.**

Беларускі прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі прааналізаваў тлумачэнні Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны наконт прафесійнага страхавання, якое дае права на пенсію па выслузе гадоў, і высветлілася…

Калі кіравацца новымі правіламі, то жанчынынастаўніцы змогуць пайсці на "датэрміновую" пенсію не раней чым у... 58 гадоў. Ды і то пры ўмове, што яны будуць бяздзетнымі і не скарыстаюцца правам на дэкрэтны адпачынак па догляду за дзіцем да трох гадоў. У процілеглым выпадку "датэрміновая" пенсія будзе дасягнутая аж … у 61 год.

Мужчынам-настаўнікам новыя правілы даравалі такую ж "радасць". Правам на "датэрміновы" выхад на пенсію яны змогуць скарыстацца толькі … у 68 гадоў, даўно дасягнуўшы права на пенсію па ўзросце.

Такія разлікі агучыў старшыня галіновага прафсаюза Аляксандр Бойка на клегіі Міністэрства адукацыі.

Во паклапаціліся дык паклапаціліся!

**nv-online.info**

# ГАСТАРБАЙТЭН WORK AND TRAVEL

**Паводле статыстыкі Міжнароднай арганізацыі па міграцыі, на сённяшні момант за мяжой працуюць больш за адзін мільён беларусаў. 34mag пагутарыў з суайчыннікамі, якія пахалі ці пашуць за кардонам, каб даведацца, чаму яны з'язджаюць, чаго шукаюць на другім канцы свету і як вяртаюцца назад.**

## МАРЫЯ, ОФІСНЫ СПЕЦЫЯЛІСТ У ГОЛЬФ-КЛУБЕ, 23 ГАДЫ

– Я вучылася ў МДЛУ і на трэцім курсе зразумела, што для павышэння скілоў было б карысна апынуцца ў англамоўным асяроддзі. У 2010-м паехала ў ЗША па праграме Work and Travel, уладкавалася афіцыянткай у прыватным гольф-клубе ў горадзе Стэнфард – гэта прыблізна 40 хвілінаў язды ад Нью-Ёрка. Мне спадабалася, і ўражанні пра сябе я, відаць, пакінула добрыя, бо наступным летам мяне зноў паклікалі ў гольф-клуб. Я паехала і з таго моманту жыву ў ЗША стала.




Праўда, другі раз я ўжо не працавала афіцыянткай – з рэсэпшна ў клубе раптам сышоў чалавек, адміністрацыя доўга не магла нікога знайсці і ў выніку прапанавала мне гэтую вакансію. З тых часоў пачалася мая працоўная віза. Цяпер я тусуюся ў аддзеле public relations, курырую сайт.

Мне вельмі падабаецца мая праца. Я лічу, што ніводзін універ у свеце не дасць столькі навыкаў, колькі можа даць практыка. Амерыканцы – працавітыя людзі, даводзіцца падладжвацца – першыя два гады я працавала практычна без адпачынку. У ЗША жыць сціплым жыццём можна і на сацдапамогу, як жыве процьма афраамерыканцаў, што днём толькі і хістаюцца па вуліцах. Але калі ты хочаш нармалёва зарабляць, купіць дом і годна ўтрымліваць сям'ю – прыйдзецца добра напружвацца.

Мяне ніхто тут ніколі не папракаў. ЗША – краіна эмігрантаў, у іх гэта на генетычным узроўні, яны не маюць права сказаць: «Чаго вы сюды панаехалі?» Але менавіта ў Стэнфардзе я заўважыла вельмі дзіўную асаблівасць: большая частка маіх калегаў – унукі і праўнукі людзей, якія самі калісьці эмігравалі. І ўвогуле, тут вельмі шмат выхадцаў з Беларусі! Калі я расказваю пра тое, адкуль я прыехала, суразмоўца можа ўскрыкнуць: «О-о, а ў мяне прабабуля з Горадні!» Я нават пачала весці спіс такіх людзей.

Як аказалася, асноўная хваля эміграцыі беларусаў прыпала на 1920-я гады, пасля рэвалюцыі. Але менавіта ў штаце Канэктыкут асталявалася нейкая дыяспара. Можа, з-за таго, што тут клімат падобны? Калі глядзіш у акно, на нейкі момант здаецца, што нікуды і не з'язджаў.

У мяне склалася незвычайнае ўражанне, што мой ад'езд быў адпраўной кропкай.

> ВОСЬ Я З'ЕХАЛА З БЕЛАРУСІ, ЖЫВУ ТУТ ДВА ГАДЫ, А ТАМ – НІЧОГА НЕ ЗМЯНЯЕЦЦА, ЧАС СПЫНІЎСЯ НА ТЫМ МОМАНЦЕ, КАЛІ Я СЕЛА Ў САМАЛЁТ

І калі я вярнуся ў Беларусь, у мяне будзе адчуванне, што гэтых трох гадоў быццам бы і не было, я зноў вярнуся ў той жа час. Не ведаю, можа, гэта такая сувязь з радзімай.

Я думаю вярнуцца ў Беларусь, хаця мяне просяць застацца ў гольф-клубе – атрымаць візу далей будзе складаней і значна даражэй. Дзе менавіта жыць, для мяне не гэтак важна: калі старацца і працаваць, усюды будзе добра. Праўда, мне трошкі страшна. Калі я вярнулася першы раз, у 2010-м, у мяне была жудасная дэпрэсія на паўгода, я ніяк не магла перастроіцца. Мне сумна ад думкі, што ў Беларусі я не знайду сабе месца ў жыцці, як тут. Але, спадзяюся, усё будзе добра.

## ЛІДА, ФАТОГРАФ НА КРУІЗНЫМ ЛАЙНЕРЫ, 25 ГАДОЎ

– Я працавала на круізным лайнеры, уладкавалася праз менскае агенцтва. Выпадкова ўбачыла, што ёсць вакансія фатографа, а ў мяне якраз быў у жыцці такі перыяд, калі хацелася ўсё цалкам памяняць. Але высветлілася, што там фатаграфія – гэта прадукт. Які я фатограф і які ў мяне светапогляд, нікога не цікавіла, я павінна была выконваць толькі канкрэтныя задачы, ісці па схеме.

Караблі адыходзілі з Маямі, але плавалі мы вакол Кубы – гэта былі Карыбскія і Багамскія выспы. Мая задача заключалася ў тым, каб фатаграфаваць людзей, дзе толькі змагу іх злавіць: пры пасадцы на карабель, за сняданкам, на вечарынах. Але паўсюль строгі алгарытм, творчасць не віталася. Ты не фотамастак, ты – рамеснік.

Гэта быў такі рытм жыцця, што пра ўсё астатняе я проста забыла. Працавала па 10 гадзінаў на дзень, але час быў разбіты перапынкамі так, што пахаць прыходзілася з ранку да вечара. Выходных не было. Я фатаграфавала штодзень, усе 8 месяцаў. За змену патрабавалі адзняць па 200 фотак з чалавека, падчас вечарынак – наогул 500. Гэта быў канвеер, нам нават не дазвалялася выдаляць здымкі – усё, што ты зняў, ідзе ў друк. Перад паездкай я начыталася форумаў, дзе людзі пісалі, што пасля такой працы фотаапарат яны ў рукі больш не бяруць. Дык вось, я бяру.

Пасля здымкаў мы прадавалі свае фатаграфіі. У нас была асобная галерэя, дзе развешваліся матэрыялы, і пасажыры прыходзілі паглядзець іх і, калі спадабаюцца, прыдбаць. Здымкі з міні-студыі прадаваліся па $ 22, а звычайныя з карабля – ад $ 10 да 21, у залежнасці ад памеру. Я была на дарагіх і танных круізах, пабачыла розных людзей – фатаграфіі куплялі ў асноўным больш бедныя турысты.

У нашай камандзе было 17 фатографаў, усе з розных краінаў: Інданезія, Філіпіны, Расея, Паўднёвая Афрыка. Еўрапейцы там не працавалі – зарплата не надта вялікая. Для нас грошы таксама не велізарныя, зарабіць можна і ў Беларусі. Іншая рэч філіпінцы – яны працуюць там гадамі, утрымліваюць на гэтыя грошы сем'і, будуюць дамы, для іх гэта прэстыжная праца. Зарплата фіксаваная, крыху больш за $ 1000 на месяц, часам з продажаў выходзяць невялікія бонусы. Затое ты бясплатна жывеш і сілкуешся на лайнеры, бачыш свет. Я гэтага якраз і хацела, для мяне важнейшымі былі вандраванне і новыя веды, чым грошы.

Вяртацца туды я не хачу. Жыццё ніякага – ты толькі працуеш штодня і спіш па чатыры гадзіны, сам сабе не належыш. Я скончыла філфак, але на лайнеры за ўвесь час не прачытала ніводнай кнігі. Ды і фізічна цяжка, асабліва для дзяўчыны – увесь дзень на нагах, усю студыйную апаратуру цягаеш сам.

Там я адчула дзіўнае шчасце – калі працаваць табе дрэнна, але ад гэтага добра. Я зразумела, як гэта – жыць адным днём і адным момантам. Няма калі думаць пра тое, што будзе заўтра, ты проста робіш тое, што павінен рабіць. Ніякіх планаў, нічога наперадзе. Ад гэтага табе і выдатна.

## РУСЛАН, АКРАБАТ У ЦЫРКУ, 20 ГАДОЎ

– Я з цыркавой сям'і, мама з татам пазнаёміліся ў цырку – бацька быў акрабатам, як і я. Для мяне ўсё пачалося гадоў 10 таму, я ўвесь час праводзіў у нашым менскім цырку, там былі грымёркі, і я ў іх практычна жыў. Пачынаў з нуля, увогуле. Трэніраваўся там увесь час. Было весела.

У свой першы двухмесячны трып з цыркам я паехаў у 2006 годзе ў Егіпет. Для мяне як для артыста там здарылася першае цяжкае выпрабаванне – мы трапілі ў начны гарадок, усе выступы пачыналіся апоўначы. Працаваць ноччу вельмі цяжка і нязвыкла, шматлікіх артыстаў такі перапад ламаў, многія хварэлі.

Мае нумары ў цырку – гэта «руская палка» і скакалкі. На будучыню плануя зрабіць яшчэ два сямейныя нумары. Плацяць усюды па-рознаму, я не люблю размаўляць пра грошы, але скажу, што за трэніроўку, бывае, плацяць $ 600, а за выступы ў разы больш. Я аб'ездзіў шмат краінаў, усе ўжо нават і не памятаю. Асабліва запомнілася Лацінская Амерыка, але там пекла.

Быў выпадак у Дамініканскай Рэспубліцы, калі мы з бацькам пайшлі ў банк, каб разменяць грошы.

На выхадзе нас чакала банда на скутэры. Але чувак, які выхопліваў сумку, відаць, не прадугледзеў, што мой бацька выхапіць яе назад і пакажа яму сярэдні палец. Пакрыўджаныя такім стаўленнем да іх, хлопцы развярнуліся, дасталі ствол і пачалі па нас шмаляць.

> МЫ ДАБЕГЛІ ДА БЛІЖЭЙШАЙ КРАМЫ, ДЗЕ НАМ ДАПАМОГ ПРАДАВЕЦ – ЁН ВЫБЕГ З РУЖЖОМ І ПАЧАЎ ШМАЛЯЦЬ У АДКАЗ.

Затое там умовы класныя і зарплата супер. Напрыклад, клоўн атрымлівае $ 15 000 на тыдзень. Жывеш сабе ў дарагім гатэлі, калі дрэнна сябе адчуваеш, выклікаюць лекара і ўсё за цябе аплочваюць. Мы кожны тыдзень збіраліся на беразе Карыбскага мора – што можа быць лепш?

Пасля ўсяго гэтага ў той жа Расеі рабіць няма чаго, там поўная дупа. Умовы жудасныя, людзі ўсе злыя, вакол стукачы, і ўсе думаюць, як паболей скрасці. Праца ў Расеі – гэта гульня на выжыванне.

Гады 4 назад я сышоў з цырка і некаторы час працаваў слесарам механазборачных работ і займаўся прафесійным кіберспортам – у Counter Strike рубіўся на турнірах. Але працаваць у Беларусі з 7-й раніцы да 22-й вечара за капейкі мне не спадабалася, я сумаваў па цырку, па разнастайнасці, мне надакучыла бачыць у аўтобусе адны і тыя ж твары, прычым практычна ўсе з перагарам. Я вярнуўся і цяпер назаўжды хачу застацца артыстам-акрабатам.

Натуральна, па Беларусі ў часе паездак усё роўна сумуеш. Не хапае сяброў, каханай, дый проста самой радзімы, яе духу і нават паветра. Ды і многія прадукты ў нас лепшыя, чым там. У Амерыцы я сумаваў па грэчцы з вэнджанай каўбаскай. І па хлебе нашым.

**Паводле: 34mag.net**

# СУЩЕСТВУЕТ ЛИ САМОУПРАВЛЕНИЕ В БЕЛОРУССКИХ ВУЗАХ?

**Правильная модель управления образованием – это автономия, академическая свобода и студенческое самоуправление, без них всё остальное – фикция. Так ли выглядит университетское самоуправление Беларуси?**

***Заставить общество думать о расширенном общественном участии в управлении жизнью университета, автономии, свободе выбора призваны «советы».***

В стенах университетов числятся десятки структур, которые жонглируют таким понятием как «совет»: студентов, отличников, старост, молодых учёных, учёных, ректоров, женщин, девушек, педагогические, попечительские, межведомственные, координационные, научно-методические и прочие. В числе прочих особо выделяются советы идеологических структур: БРСМ, «Белой Руси», а еще профкомы.

Общепринятым является мнение, что всё это пустышки, благодаря которым власть получает возможность оградить себя от влияния нижестоящей массы, избежать критики в недемократичности, придать университетам имидж самоуправления.

Основным среди видового разнообразия является «совет университета», модель которого едина для всех вузов страны и не предусматривает никаких отклонений. Законодатель, не мудрствуя лукаво, как-то неряшливо определил статус и цель Совета университета: «Совет является основным органом самоуправления университета, который создается в целях решения основных вопросов деятельности учреждения образования».

**В КАКОЙ СТЕПЕНИ БЕСПРАВНЫ СОВЕТЫ?**

По инициативе Болонского комитета проведён мониторинг вузов с целью выяснить, что собой представляют советы, кто их олицетворяет, какую они имеют компетенцию. Нормативно-правовое регулирование советов – самоуправление, основанное на единоначалии.

Принципы управления образованием провозглашены в ст. 25 Кодекса РБ об образовании и конкретизированы в п.1: управление учреждением образования строится на сочетании принципов единоначалия и самоуправления. Правовая регламентация принципов «единоначалие» и «самоуправление» реализуется в двух формах: управления и самоуправления.

Управление олицетворяет руководитель университета, назначаемый президентом. Самоуправление представлено «основным органом» - Советом университета. Управляет им все тот же руководитель.

Теоретически можно представить себе ситуацию, не противоречащую законодательству, когда, например, руководитель вуза, единолично начальствуя в двух ипостасях, сможет обеспечить независимую от себя же самого как управленца работу Совета университета.

К сожалению, практика таких примеров пока не предоставляет. Обычно законодатель наделяет вуз полномочиями, которые начинаются со слов: «заслушивают», «укрепляют», «развивают», «содействуют», «обсуждают» и прочей бессмыслицей, к реальному самоуправлению никакого отношения не имеющему.

**ЛИЦА СОВЕТОВ УНИВЕРСИТЕТА: КТО ОНИ И СКОЛЬКО ИХ**

Первое лицо, как уже говорилось ранее – ректор. Олицетворяя принцип единоначалия как руководитель, он реализует и принцип самоуправления как председатель совета. В соответствии с положением о совете количественный состав должен соблюдаться в следующей пропорции:

25 % - обучающиеся, их законные представители. Чтобы попасть в совет, необходимо пройти через фильтр благонадёжности. Обычно это триединство:




староста курса, член БРСМ, член совета университета. В перспективе - лучший студент года.

75 % - представители руководителей структурных подразделений, педагогических и иных работников университета, местных исполнительных и распорядительных органов, иных государственных органов, организаций - заказчиков кадров, общественных объединений, иных организаций.

Количество членов советов колеблется в диапазоне от нескольких десятков до сотни человек.

**ПОСТАНОВЛЕНИЯ СОВЕТОВ**

Они разные, часто нервозные, направленные, например, *на стабилизацию неспокойной политической ситуации в стране:* «Деканату, кафедрам факультета, студенческим органам самоуправления продолжать работу по созданию действенной системы идеологической работы. Срок: постоянно». *Или на обеспечение поборов:* «Обеспечить установку стиральных машин во всех студенческих общежитиях на условиях аренды». *Или на политический сыск:* «Подготовить аналитическую записку по итогам изучения морально-психологического климата в общежитиях»

**ТАК ЕСТЬ ЛИ САМОУПРАВЛЕНИЕ В ВУЗАХ?**

Спектр вопросов, которыми занимается основной орган самоуправления – Совет университета, озвучить в рамках одной статьи невозможно. Но все эти вопросы далеки от самоуправления.

Совет университета в Беларуси:

• не осуществляет руководство университетом, а только является коллегиальным органом;

• не полномочен принимать решения по вопросам учебной, учебно-методической, научно-исследовательской и информационно-аналитической работы, подготовки кадров, осуществления международных связей, а только рассматривать их;

• не принимает решений о создании, реорганизации и ликвидации факультетов и кафедр, а только обсуждает их (решает - ректор);

• не формирует собственную повестку дня - ее утверждает ректор;

• не решает никаких финансовых вопросов;

Ну и, наконец, чтобы уж совсем застраховаться от случайностей, решения совета вступают в силу только после утверждения протокола приказом ректора. Членов совета подбирают так, что они сами хотят лишить себя всех властных полномочий. Потому что для них членство в этом самом совете — это не какая-то пошлая власть, а признак статуса и благонадёжности, охранная грамота.

**Паводле: zautra.by**

**УВАГА! КОНКУРС!**

## ОБМЕНЯЙ ВЕЛО-ФОТО НА ЦЕННЫЙ ПРИЗ!

**В рамках кампании «За вело-Брест!» проходит фотоконкурс, результатом которого будет настенный календарь на 2013-2014гг. с тематическими фотографиями на каждый месяц.**

Автор фотографии, отобранной для календаря по результатам голосования на сайте, получает ПРИЗ: флеш-накопитель 16 Гб. (Всего будет отобрано 12 фотографий).

Авторы фотографий, отобранных для голосования, получат в подарок календарь и фирменную продукцию кампании «За вело-Брест!»: значки, флажки, наклейки и т.д. (Всего будет награждено 60 конкурсантов).

На конкурс принимаются фотографии велосипедиста (велосипедистов) на фоне узнаваемых мест города Бреста (известные улицы, парки, здания и т.д.). Фото должно соответствовать указанному месяцу.

Конкурсная работа должна состоять из фотографии и описания места, где был сделан снимок (приветствуется небольшой рассказ об истории фотографии).

Фотография должна быть сделана в период с 01.03.2013 по 31.03.2013.

Фотографии должны быть высокого качества не менее (хотя бы по одной стороне) следующих размеров: ширина 1600 px, высота 1200 px.

Работа должна быть авторской.

Сроки проведения конкурса «ВЕЛО-АПРЕЛЬ»: с 01.04.2013 по 30.04.2013.

Работы принимаются до 23.59 30.04.2013 года на адрес: vybor@tut.by с отметкой «на фотоконкурс». В письме необходимо указать фамилию, имя конкурсанта, контакты: телефон, мейл.

Сроки проведения конкурса по созданию вело-календаря: с 01.07.2012 по 30.06.2013.

**dzedzich.org**



# СЛАВУТАСЦІ БЕЛАРУСІ

**Партал 34mag.net падрыхтаваў гайд па тых мясцінах, якія можна лічыць абавязковымі да прагляду. Пры складанні гайда былі выкарыстаныя парады, назіранні і веды журналіста і вандроўніка Змітра Навіцкага, рэдактара партала vitebsk4.me і гісторыка Рамана Воранава, гісторыка і экскурсавода Цімоха Акудовіча – за што ім вельмі моцны рэспэкт!**

**Вашай увазе частка артыкулу, прысвечаная Берасцейшчыне. Цалкам гайд можна знайсці на сайце 34mag.net.**



## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА, КАМЯНЕЦКІ РАЁН

**ШТО ГЭТА?**

Самы буйны і старажытны лясны масіў Еўропы. Цяпер мае статус біясфернага запаведніка і лічыцца сусветнай спадчынай ЮНЕСКА. Галоўнае – тут ёсць зубры. На іх нават можна паляваць. На шчасце, нішчыць дазваляецца не ўсіх зуброў, а толькі хворых або старых жывёлін – такіх у спецыяльны рэзервовы фонд трапляе літаральна некалькі на год. Таму і кошты на забойства – штосьці каля 20 000 еўра. Наўрад ці вы пацягнеце.

**ШТО РАБІЦЬ?**

Калі вы захапляецеся паляваннем – пытанняў не ўзнікае. Калі зубра вам больш да спадобы карміць з далоні – дыхайце рэліктавым паветрам, паглядзіце на старажытную Камянецкую вежу і махніце на пасашок у легендарных Віскулях, дзе прыкончылі СССР. Заночыць можна у сядзібе Тышкевічаў, дзе меў намер «кінуць косці» адзін з аўтараў тэорыі грамадскай дамовы Жан-Жак Русо. Прынамсі, тут самая цёплая зіма ў Беларусі.

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ КРЭПАСЦЬ, ГОРАД БРЭСТ

**ШТО ГЭТА?**

Легендарная фартэцыя і велізарны музей савецкай гераічнай манументалістыкі пад адкрытым небам. Уласна крэпасць была пабудаваная ў XIX ст., аднак і да таго на гэтых выспах шмат чаго адбывалася. Тут у 1596 г. абвесцілі царкоўную унію, а падчас Першай сусветнай падпісалі Брэст-Літоўскую мірную дамову. Аднак вядомая крэпасць у першую чаргу дзякуючы адчайнаму супраціву сваіх абаронцаў пераўзыходзячым сілам вермахту на пачатку Другой сусветнай вайны.

**ШТО РАБІЦЬ?**

Агляд можна здзяйсняць у храналагічным парадку. На Валынскім узмацненні месціцца музей «Бярэсце» – археалагічны раскоп, дзе можна пабачыць рэшткі гарадзішча і драўляных пабудоваў XI–XIII стст. Назад у будучыню – музей абароны Брэсцкай крэпасці. Сама тэрыторыя комплексу велізарная, так што пару гадзінаў на шпацыр варта адвесці. Калі сысці ўглыб, трапіце на V форт – напаўзакінутае ўзмацненне, ад якога робіцца неяк няўтульна. Калі мозг насыціцца гісторыяй, паспрабуйце насыціць страўнік у цэнтры на пешаходнай вуліцы Савецкай.

## КОСАЎСКІ ПАЛАЦ, ГОРАД КОСАВА, ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН

**ШТО ГЭТА?**

Неагатычны палац Пуслоўскіх лёгка можна ўявіць недзе ва Ўэльсе. У часы панавання класіцызму такі палац быў фактычна выклікам. Іншая асаблівасць – будынак размешчаны так, каб даглядаць маёнтак Касцюшкаў, месца нараджэння нацыянальнага героя ЗША, Польшчы і Беларусі, а таксама ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшкі. Палац быў закладзены на пачатку XIX ст. Казімірам Пуслоўскім, а ўжо ўнук фундатара прагуляў маёмасць у карты, відаць, быў азартным чалавекам. Палац меў 12 вежаў, адну на кожны месяц года, і складаўся з больш як сотні пакояў. Прадказальна, што калі яго падпалілі партызаны ў 1943 г., гарэў ён, паводле легенды, амаль 10 дзён. Заадно чарговы раз згарэў і маёнтак рода Касцюшкаў.

**ШТО РАБІЦЬ?**

Косаўскі палац пабудаваны на тэрасе з выглядам на заліўны луг – уявіце сабе экстэр'еры «Меланхоліі» фон Трыера, але ў нашым клімаце. Аднак варта спяшацца – цяпер тут ідуць рамонтныя працы, абяцаюць гатэльна-турыстычны комплекс. І абавязкова завітайце ў дом-музей Касцюшкі, паслухайце экскурсію аб прафесійным рэвалюцыянеры і вандроўніку, чым імем апроч іншага названая гара ў Аўстраліі. На зваротным шляху можна заехаць у Ружаны, паглядзець на рэшткі палаца Сапегаў. Брама, што захавалася, уражвае моцна, аднак апошнім часам за аднаўленне палаца бязлітасна ўзяліся маляры-рэстаўратары.

## ПАЛЕССЕ

**ШТО ГЭТА?**

Найбуйнейшая з еўрапейскіх балотных тэрыторыяў, займае прыблізна 30% мапы Беларусі. Тэра інкогніта ў памерах дробнай краіны, з ізаляванымі вёскамі і дзіўным карэнным насельніцтвам, палешукамі, якія маюць сваю нетыповую гаворку.

**ШТО РАБІЦЬ?**

Трэба дачакацца, калі ў выпуску навінаў па БТ прагучыць: «А на Палессі разлілася Прыпяць» – браць ляхі пад пахі ды ехаць у Пінск. Там атабарыцца ў гатэльчыку – і два дні рабіць вылазкі на прыроду.

А можна ўзяць у арэнду які-небудзь домік ляснічага і назіраць за тым, як рухаецца лёд. Партвейн і БГ па жаданні – але ўбачыць мора Герадота можна толькі ўвесну, на Прыпяці. Таксама няблага ўзяць човен і паплаваць па беларускай Венецыі, паляшуцкіх вёсачках, якія залівае па самае горла. А можна тыдзень плыць па Прыпяці з любой вёскі пад Пінскам да самага Турава.

**Паводле: 34mag.net**

## СТЫПЕНДЫЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ЛІТВЕ — 2.5 МЛН. РУБЛЁЎ




**Беларускія студэнты, якія прыязджаюць па праграмах навучальнага абмену ў Літву, не атрымліваюць стыпендый ад сваёй радзімы. Стыпендыю такім студэнтам плаціць сама Літва, і яна як мінімум удвая вышэйшая за тую, што атрымліваюць ва ўніверсітэтах Літвы самі літоўскія студэнты. Такім чынам мясцовыя ўлады спрабуюць падтрымаць беларускіх студэнтаў, што жывуць, на іх думку, у горшых эканамічных умовах.**

Штогод невялікая колькасць беларускіх студэнтаў маюць магчымасць прыехаць у Літву дзеля навучання альбо навуковай дзейнасці. У 2012 годзе ў Літву прыехалі 17 беларускіх студэнтаў, а агулам за апошнія пяць гадоў — 60. Літоўцы, дарэчы, таксама едуць у Беларусь, але не так ахвотна. За апошнія пяць гадоў толькі 36 студэнтаў або навуковых работнікаў даехалі да Беларусі з Літвы.

Паводле дадзеных літоўскага Фонду падтрымкі навучальнага абмену, Беларусь сваім студэнтам стыпендыю не плаціць, піша delfi.lt. Стыпендыю выплачвае Літва, і яна значна вышэйшая за тое, на што могуць разлічваць грамадзяне самой Літвы.

Беларускія студэнты атрымліваюць у Літве стыпендыю ў памеры 780 літаў — гэта 2.5 млн. рублёў. Выкладчыкі, навуковыя працаўнікі — у два разы болей, а студэнты, якія прыязджаюць для вывучэння літоўскай мовы і культуры — 6.3 млн. рублёў у месяц.

Для параўнання, сацыяльная стыпендыя на дадзены момант у Літве складае ўсяго 1.27 млн. рублёў. Сваім грамадзянам, якія вучацца на бакалаўра ў Беларусі, Літва плаціць суму амаль у 5 разоў большую.

У Беларусі максімальная стыпендыя, якую атрымліваюць пераважана студэнты прыродазнаўчых дысцыплін БДУ, роўная 940 тыс. рублёў. Мінімальная ж беларуская ў тры разы меншая за мінімальную літоўскую стыпендыю.

Як кажуць прадстаўнікі літоўскага Фонду падтрымкі навучальнага абмену, беларусам плацяць болей за літоўцаў таму, што ў Беларусі ніжэйшы ўзровень жыцця, і такім чынам літоўскія ўлады спрабуюць падтрымаць беларусаў.

Абмен студэнтамі з Беларуссю адбываецца дзякуючы двухбаковаму літоўска-беларускаму пагадненню. Праз гэта пагадненне беларускія студэнты могуць на 5–10 месяцаў адправіцца ў адзін з універсітэтаў Літвы. Па адной з такіх праграм некалькі гадоў таму ў Літве навучалася дачка рэктара БДУ Марыя Абламейка.

**generation.by**

# ФЭНТЭЗІ ПАД НАЗВАЙ "БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ"

**Ёсць месцы, якія ўспрымаюцца як канстанты. Цяжка ўявіць, напрыклад, у іншым выглядзе Эйфелеву вежу ці грабніцу Тутанхамона. Затое варта паглядзець на іх адзін раз — і ніякай цікавасці яны больш не выклічуць.**

***Тое самае і з Брэсцкай крэпасцю. Я, гараджанка, хаджу туды рэдка, ды і тое з нейкіх нагодаў. Бо помнік "Смага" не памяняецца месцамі з манументам "Мужнасць", штык застанецца стаяць у выдатказанай для яго прасторы, і толькі ля Вечнага агню будзе мяняцца ганаровы каравул.***

Больш у крэпасці рабіць няма чаго. Можна, праўда, разок наведаць музей яе абароны, зазіраць часам на вернісажы ў мастацкім музей, ну, а вернік ахвотна зойдзе ў гарнізонную царкву, цікавую сваім бездакорным фасадам і некранутым унутраным убраннем.

Аднак асноўнага тэзісу гэта не мяняе: крэпасць — гэта музей, адпачываць у якім няма ахвоты. Далей гэта працягвацца не можа. Асабліва, калі ўспомніць, што яна — гэта не толькі, пардон, крэпасць, але яшчэ і сцёрты з твару зямлі дасканалы горад, створаны ў XI стагоддзі ў найлепшых сярэднявечных традыцыях горадабудаўніцтва.

Дзякаваць богу, апошнім часам пра неабходнасць "вярнуць" крэпасць гараджанам пачалі актыўна гаварыць не толькі рамантыкі-гісторыкі.

З'яўляюцца цікавыя ідэі, каб і авечкі былі цэлыя, і ваўкі сытыя. То бок каб музей-мемарыял працягваў выхоўваць школьнікаў у ваенна-патрыятычным духу, а астатняя, значна большая частка крэпасці з яе валамі і ўмацаваннямі нарэшце запрацавала на гараджан.

На гэтай хвалі пад патранажам гарвыканкама і Асацыяцыі менеджараў культуры ўзнік цікавы комплексны праект "Брэст-2019". З канца мінулага года 4 групы архітэктараў стваралі сваё бачанне таго, як тэрыторыю крэпасці (ці старажытнага Берасця — каму як больш падабаецца) звязаць з горадам і што ўвогуле ў сучаснай крэпасці павінна быць, каб захаваць баланс інтарэсаў інвестараў і мясцовых жыхароў. Ідэі траплялася часам ну вельмі цікавыя.

## МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ І КАРЦІНГ

Група архітэктараў з Ульянаўска прапанавала раздзяліць тэрыторыю крэпасці на функцыянальныя зоны, пакінуўшы некранутым мемарыяльны комплекс на цэнтральным востраве. Зоны самыя розныя, але ўсе яны маюць рэкрэацыйную функцыю. На самым вялікім па плошчы Кобрынскім умацаванні архітэктары бачаць зону актыўнага адпачынку для моладзі, з карцінгам, пляцоўкамі для парашутнага спорту, для альпінізму і г.д. Побач прапануецца зрабіць адкрыты музей ваеннай тэхнікі. "Не савецкай, а еўрапейскай, бо Брэст — еўрапейскі горад", — удакладняе думку кіраўнік групы Аляксандр Варухін.

Прапануюць ульянаўцы перанесці з горада ў крэпасць правядзенне розных фестываляў, арганізаваць у забалочаных месцах ландшафтны парк і — зусім фантастычная ідэя — на Памежным востраве, нядаўна адкрытым для турыстаў, наладзіць памежны кірмаш. "Гэта наша мара", — кажа Варухін наконт апошняга пункта. Наша таксама, скажу ад імя берасцейцаў.

Турыстаў таксама не пакрыўдзілі. Для іх запланаваная гасцініца ў казарме, матэль, ну і ўсялякія традыцыйныя забавы накшталт казіно. Праўда, апошнія слушна вынесеныя за межы старажытнага горада.

## АКЦЭНТ НА ПАДЗЕЯХ

Асноўная думка ульянаўскіх архітэктараў — удыхнуць у крэпасць жыццё — гучыць і ў прапанове маскоўскіх архітэктараў пад кіраўніцтвам Антона Качуркіна.

Гэтая творчая смелая моладзь з усёй адказнасцю заяўляе: далоў канкрэтныя планы з прыцэлам на аднамомантавае будаўніцтва! Замест гэтага давайце арганізоўваць цікавыя падзеі, і пад тыя з іх, якія зачэпяцца за валы крэпасці, паступова будаваць інфраструктуру.



Гарнізонная Мікалаеўская царква да рэстаўрацыі

Біенале лэндарту, кангрэсы гісторыкаў, рэканструкцыя тых ці іншых падзей — гэта тое, з чаго можна пачынаць. Проста на валах масквічы прапануюць зрабіць летні амфітэатр, прычым выкарыстоўваць пры гэтым лёгкія канструкцыі, якія пры неабходнасці прыбіраюцца і не ўплываюць на стан гісторыка-культурнай каштоўнасці. Арыгінальная і цалкам выканальная ідэя — узнавіць з дапамогай лазерных тэхналогій старажытны горад з як мага больш дакладнай ілюстрацыяй пабудоў на іх гістарычных месцах. Зрабіць гэта можна хаця б у ноч тысячагоддзя.

Курыраваць жа падзеі ў крэпасці мусіць, на думку Антона Качуркіна энд кампані, адкрыты ўніверсітэт, які б займаўся таксама навуковай працай у розных кірунках. Гэта вырашыла б заадно праблему з сезоннасцю падзейнага турызму, бо навукоўцаў жа можна збіраць і зімой.

## БУДУЕМ ЗАНАВА

Яшчэ адно бачанне крэпасці будучыні мае гістарычны ўхіл. Нарадзілася яно адносна даўно сярод берасцейскіх гісторыкаў, архітэктараў і гісторыкаў архітэктуры. Асноўная ідэя — адбудаваць на тэрыторыі старажытнага горада некалькі важных будынкаў. Гэта можа быць нейкі манастыр, гарадская ратуша ці нават знакаміты берасцейскі замак, пра які ніхто дакладна не ведае, дзе ён знаходзіцца, але дзякуючы шведскаму інжынеру-фартыфікатару Дальбергу многія ведаюць, як ён павінен выглядаць.

## КРЭПАСЦЬ-САД

Берасцейскі архітэктар Аляксей Андраюк, наадварот, раіць не пускаць на тэрыторыю крэпасці будаўнікоў, а замест гэтага пературыць яе ў "эдэм". Працягнуць да старажытнага горада парк і асноўныя вуліцы, зрабіўшы іх цалкам бетонна-шклянымі і сучаснымі ў разуменні нашых горадабудаўнікоў, а ў самой крэпасці зрабіць нешта накшталт батанічнага саду з пешаходным кругавым абходам. Работнікі мемарыяльнага комплексу, праўда, сумняваюцца, ці будуць кветкі гарманіраваць з манументамі.

## БІЗНЭС-ЦЭНТР З ВІДАМ НА ПОЛЬШЧУ

Цікава, якім чынам Брэсцкую крэпасць бачаць украінцы. Нават не саму крэпасць, бо яны падтрымалі ідэю рэстаўрацыі асобных гістарычных пабудоў на яе тэрыторыі, а злучэнне крэпасці і цяперашняга горада.

Ідэя такая: пабудаваць на іх мяжы гмах вышынёй каля 120 метраў у выглядзе брамы. Адна вертыкаль гмаху — бізнэс-цэнтр, другая — гатэль, а верхняе перакрыццё — аглядная пляцоўка, з якой будзе добра відаць і крэпасць, і суседнюю Польшчу, і сам горад, у якім найвышэйшыя будынкі пакуль — гэта дваццаціпавярховікі. Побач з гмахам кіяўляне прапануюць пабудаваць прыпаднятую круглую плошчу, пад якой могуць змяшчацца крамы і іншая інфраструктура для турыстаў.

Увогуле ўкраінцы дэманструюць гарачае жаданне паказваць крэпасць з вышыні. Таму верталёты і дырыжаблі ў іх праекце таксама прысутнічаюць.

## МНОСТВА ІДЭЙ — АДЗІН ПРАЕКТ

Гэтыя ідэі і праекты наўрад ці будуць рэалізаваныя ў чыстым выглядзе. Нейкія з іх цалкам рэальныя, але мала прывабныя для інвестараў, нейкія могуць акупіцца, але зусім непатрэбныя гараджанам. А, як ні круці, найперш трэба думаць пра мясцовых, бо аднымі турыстамі сыты не будзеш. Каб сказаць менш прагматычнай мовай, пазычым думку ў гісторыка архітэктуры Ірыны Лаўроўскай: *"Калі гараджанам будзе добра, то і турысты да нас паедуць, бо мы будзем больш усміхацца, будзем больш вынаходлівымі"*.

Зрэшты, праект "Брэст-2019" прадугледжвае тое, што самыя рацыянальныя зярняты ўсіх ідэй знойдуць адлюстраванне ў канчатковым майстар-плане.

Што палічаць каардынатары самым патрэбным — невядома, але добра было б, каб у лік прыярытэтаў трапілі веламаршруты і яшчэ адна шыкоўная ідэя — пусціць у крэпасці трамвай.

**Паводле budzma.org**

# СОВЕТЫ ДЛЯ ПУТЕШЕСТВИЙ

**Несколько советов от Пауло Коэльо, которые помогут сделать ваше путешествие необычным и запоминающимся.**




## 1. ИЗБЕГАЙ МУЗЕЕВ

Совет может показаться абсурдным, но давайте подумаем: когда ты находишься в чужом городе, не интереснее было бы узнать его настоящее, чем его прошлое?

Люди чувствуют себя обязанными ходить по музеям, потому что им с детства прививали этот способ соприкосновения с культурой. Конечно, важно ходить в музеи, но но ты должен знать, что ты хочешь увидеть, иначе ты будешь покидать их с чувством, что ты увидел пару очень важных вещей для своей жизни, но сам не знаешь каких.

## 2. ХОДИ В БАРЫ

Именно там можно увидеть жизнь города. Я не имею ввиду дискотеки, а те места, где встречаются местные, пьют, говорят о Боге и вселенной и всегда открыты для беседы. Просто купи себе газету, сиди с ней и наблюдай за приходящими и уходящими.

Если кто-то затевает разговор, вступай в него, если даже тема покажется не интересной. Ты не увидишь красоту дороги, если будешь смотреть на неё через приоткрытую дверь.

## 3. БУДЬ ОТКРЫТ

Лучшими гидами являются местные. Они всё знают, гордятся своим городом, но не работают на агентство. Просто выходи на улицу, выбирай человека, задавай ему вопрос типа: как пройти? Если это не удатся с первым, получится со вторым, и тогда, я уверяю, ты найдёшь замечательное сопровождение на целый день.

## 4. ПУТЕШЕСТВУЙ ОДИН ИЛИ, ЕСЛИ ТЫ ЗАМУЖЕМ ИЛИ ЖЕНАТ, С ПАРТНЁРОМ

Только так можно по-настоящему покинуть свою страну. Если ты путешествуешь группой, ты только симулируешь путешествие в другую страну, при этом продолжаешь говорить на своём языке, следуещь указаниям гида и больше думаешь о болтовне в группе, чем о том месте, в которое ты приехал.

## 5. НЕ СРАВНИВАЙ

Ничего не сравнивай: ни цены, ни чистоту, ни качество жизни, ни транспорт. Ничего! Ты путешествуешь не для того, чтобы доказать, что ты живёшь лучше. Знакомься с жизнью других и находи то, чему ты можешь у них научиться.

## 6. ОСОЗНАЙ, ЧТО ТЕБЯ ВСЕ ПОНИМАЮТ

Если ты даже не говоришь на языке этой страны, не бойся: я бывал во многих странах, где не мог изъясняться при помощи слов, но всё равно везде находил помощь, получал важные советы и даже находил друзей. Некоторые боятся просто заблудиться во время путешествий, если будут одни. Достаточно просто иметь в кармане визитки отеля и в крайнем случае воспользоваться такси, и сунув визитку под нос водителю.

## 7. НЕ ДЕЛАЙ СЛИШКОМ МНОГО ПОКУПОК

Трать деньги на такие вещи, которые тебе не придётся носить: билеты в театр, посещение ресторанов, экскурсии. В наше время глобального рынка и интернета можно купить всё и не оплачивать при этом перевес.

## 8. НЕ ПЫТАЙСЯ ПРОЕХАТЬ МИР ЗА ОДИН МЕСЯЦ

Лучше остаться четыре или пять дней в одном городе, чем посетить пять городов за неделю.

Город можно сравнить с капризной женщиной, которой требуется время, чтобы показать себя со всех сторон и дать себя соблазнить.

## 9. ПУТЕШЕСТВИЕ – ЭТО ПРИКЛЮЧЕНИЕ

Генри Миллер сказал: лучше открыть для себя незнакомую церковь, о которой раньше никто не слышал, чем отправиться в Рим и чувствовать себя обязанным посетить Сикстинскую капеллу. Сходи и туда, но поблуждай по переулкам, почувствуй свободу и найди то, о чём ты сам ещё ничего не знаешь и что, может быть, изменит твою жизнь.

**vseznaniya.ru**

# ЕСЛИ В КАРМАНЕ ТОЛЬКО 100 ЕВРО

**Эксперты туристического портала Tripomatic рассчитали, сколько дней турист сможет прожить на 100 евро в разных городах мира.**

Исландский Рейкьявик оказался «самым дорогим» городом, согласно рейтингу, составленному порталом Tripomatic.com. Рейтинг рассчитывался, исходя из ситуации, когда у туриста в кармане только 100 евро. В результате оказалось, что на эти деньги путешественник не сможет прожить в Рейкьявике даже суток, в то время как в столице Украины данный показатель доходит до 4,1 дня.

Абсолютным лидером рейтинга стал индийский Гоа, где на эти же 100 евро можно прожить целых 12 дней.

В списке приведены 40 самых популярных у туристов городов мира, в которых авторы исследования сравнивали средние цены на жилье, еду, и транспорт.

Самым дорогим из пунктов расходов в Рейкьявике стали транспорт (более 30 евро) и «главная достопримечательность» Blue Lagoon (35 евро), в то время, как еда и отель оказались одними из самых выгодных среди тройки лидеров – 23 и 20,35 евро соответственно.

Вторым в данном рейтинге стал норвежский Осло, у которого отмечен самый высокий минимум цен за проживание. Ночь в Осло на человека обойдется минимум в 30,07 евро. Кроме того, норвежская столица стала абсолютным лидером по ценам на еду. Этот пункт превосходит показатель Рейкьявика почти в два раза – 42,38 евро в день.

Не позволили норвежской столице стать лидером этого сомнительного рейтинга минимальные расходы на транспорт в 10,25 евро в день, а также стоимость посещения главной достопримечательности города Viking Ship Museum, составившая 8,15 евро. Последние два показателя оказались минимальными среди тройки лидеров. В результате, имея в кармане 100 евро, прожить туристу в норвежской столице можно не более 1,11 дня.

Замкнула пьедестал почета с показателем 1,2 дня итальянская Венеция, распределение расходов у которой оказалось наиболее равномерным. Так за кровать в «городе на воде» придется выложить не меньше 20 евро. Аналогична и минимальная цена за транспорт. Билет Venice museum pass обойдется в 18 евро, а покушать в знаменитом городе можно как минимум за 25 евро.

Следующий европейский город оказался на пятом месте. Им стал Лондон с показателем 1,28 дня. Далее на 8 месте разместился Рим, в котором на 100 евро можно прожить 1,44 дня, а замкнул десятку Амстердам с показателем 1,56 дня.

Интересно, что привычно дорогой Париж оказался «ниже» Рима и занял 13 место. По мнению экспертов, на 100 евро там можно нормально прожить 1,67 дня. Приблизительно такой же показатель и у Москвы (1,68), которая находится на 15 месте.

Первым городом, в котором туристу 100 евро хватит больше, чем на 2 суток, стал Берлин (2,01), занявший 21 место. 2,56 дня на эти деньги можно провести в Стамбуле (26 место), а в занявшей 29 место Праге почти трое суток (2,99).

Самым дешевым в Европе из исследуемых городов признан Киев. Эксперты выяснили, что в столице Украины на 100 евро турист сможет находиться более 4 суток (4,1).

Таким образом, исходя из полученных результатов, можно сказать, что 1 обед в Осло обойдется в сумму, примерно равную 3 дням полноценного питания на индийском Гоа, ставшим абсолютным лидером рейтинга с общим показателем почти в 12 дней проживания на 100 евро.

В тоже время один обед в Бангкоке по сумме будет примерно равен стакану газировки в Риме, а 1 поездка на венецианской гондоле равна 20 дням пользования общественным транспортом в Киеве.

**euromag.ru**

# БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ У ВНУ

**Ці можна пачуць у нашых універсітэтах не толькі лекцыі па літаратуры і гісторыі па-беларуску, але і словы «выпрамяненне», «напружанне», «вапна» ды іншыя тэхнічныя тэрміны?**

**Карэспандэнт budzma.org абзваніла ўсе буйныя ВНУ сталіцы і высветліла, што беларускамоўныя выкладчыкі натуральных навук ёсць амаль у кожнай з іх. Вядома ж, такіх адзінкі. Што замінае беларускамоўнай адукацыі – дрэнна распрацаваная тэрміналогія, недахоп дапаможнікаў, замежныя студэнты? Мы спыталі ў тых, для каго выкладанне па-беларуску – гэта прынцып.**

### «В'ЕТНАМСКІЯ СТУДЭНТЫ ПІШУЦЬ МНЕ АДКАЗЫ ПА-БЕЛАРУСКУ»

*Ігар Сташкевіч, кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт кафедры лазернай фізікі і спектраскапіі БДУ, па-беларуску выкладае фізіку лазераў.*

– Пачаў я выкладаць у 1989 годзе. Паколькі тады ўжо быў свядомым беларусам, падумаў: а чаму я павінен у выкладчыцкай дзейнасці карыстацца нейкай іншай мовай? Агульнае грамадскае напружанне ў той час было даволі высокае, паступала шмат палітычна актыўных студэнтаў, якія падтрымлівалі беларускамоўнае навучанне. Але было і шмат тых, хто з розных прычынаў не вучыў мову ў школе, цяпер такіх амаль няма.

Студэнты ставяцца да беларускамоўнага навучання збольшага станоўча, а вось у выкладчыцкім калектыве часам бывалі супрацьлеглыя думкі. Мой непасрэдны навуковы кіраўнік казаў: «Што ты выдумляеш, ты б па-ангельску ім лепей выкладаў!». Трэба адрозніваць мову навукі і мову адукацыі. Зразумела, што мова навукі ў фізіцы – гэта мова той дзяржавы, якая яе развівае, то бок ЗША. Але адукацыя павінная быць на нацыянальнай мове. І такой сітуацыі, як у Беларусі, дзе няма ніводнай ВНУ з беларускай мовай навучання, у Еўропе сустрэць нельга.

Праблему з замежнымі студэнтамі з В'етнама, якіх на патоку чалавек шэсць, я вырашыў, выдаўшы ім праграму і літаратуру на рускай мове. Але яны здаюць залік па маёй кніжцы, так што адказы пішуць па-беларуску. Сумняюся, што яны глыбока разумеюць, але што да напісанага, то там усё правільна.

Я ведаю, што многія выкладчыкі, у тым ліку і на фізфаку, пры ўзнікненні спрыяльных умоваў з радасцю пачалі б выкладаць па-беларуску.

Тэрміналогія распрацаваная вельмі добра. Ёсць выдадзены ў 1994 годзе Руска-беларускі фізічны слоўнік (укладальнікі У. Самайлюковіч, У. Пазняк, А. Сабалеўскі), які ахоплівае ўсе галіны фізікі.

Акрамя таго, у пачатку 90-х працавалі чатыры групы навукоўцаў-фізікаў менавіта на тэрміналогію, адна з іх дайшла да выдання слоўніка, тры не дайшлі, тым не менш гэтая праца не была марнай, некаторыя з іх даследаванняў друкаваліся. За савецкім часам быў навуковы часопіс «Весці Акадэміі навук БССР», дзе ў кожным нумары выходзілі артыкулы на беларускай мове. Гэта дазваляла падтрымліваць тэрміналогію. Цяпер час ад часу дзякуючы энтузіястам з'яўляюцца такія публікацыі, хаця большасць беларускамоўных навукоўцаў друкуецца сёння на ангельскай мове.

Увогуле, праблемы з тэрміналогіяй не існуе: калі якога тэрміна няма, то бярэцца ангельскі ці лацінскі корань і адаптуецца да беларускай фанетыкі. Спрэчкі бываюць толькі пра варыянты словаў – «выпрамяненне» альбо «выпраменьванне», «плёнка» ці «плеўка» і г.д., але не бачу ў гэтым нічога дрэннага.

### «УСЁ ЧАКАЮ БЕЛАРУСКАМОЎНАГА АСПІРАНТА»

*Пётр Вайцяховіч, загадчык кафедры машын і апаратаў хімічных і сілікатных вытворчасцяў БДТУ, дацэнт, доктар тэхнічных навук, па-беларуску выкладае: асновы інжынернай творчасці; машыны, абсталяванне прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў.*

- Я выкладаю два прадметы. Асновы інжынернай творчасці – цікавая і просценькая дысцыпліна, дзе вывучаюцца метады інтэнсіфікацыі выдачы новых ідэй і затым іх афармленне ў выглядзе заяўкі на вынаходніцтва. Гэты прадмет вучыць уключаць мазгі і прапаноўваць ідэі на вытворчасці. Другі прадмет больш важны – тут вывучаюцца машыны для вытворчасці цэглы, цэменту, вапны, сілікатных блокаў, керамічных і шкловырабаў.

Выкладанне па-беларуску – для мяне сапраўды прынцып. Выкладаю я з 1981 года, а на беларускую мову перайшоў толькі гадоў праз 10 – у пачатку 1990-х. Імпульсам стала стварэнне нашай дзяржавы, але цалкам усвядоміў неабходнасць гэтага, калі аднойчы ў кіёску набыў маленькую кніжачку Вацлава Ластоўскага "Кароткі нарыс па гісторыі Беларусі". Гэта ўсё перавярнула ў маім жыцці, бо я зразумеў, што тое, што нам выкладалі па гісторыі, зусім не так, чатырыста ці пяцьсот гадоў выпалі з яе наогул.

Перайсці ў выкладанні на беларускую было псіхалагічна цяжкавата. Я проста прыйшоў аднойчы і пачаў весці заняткі па-беларуску. Рэакцыя студэнтаў была нармальная, хаця спачатку сустракалася і абурэнне. Цяпер такое бывае значна радзей. Я нават памятаю студэнта, які казаў мне: "А давайце будзем па-руску". Добры быў студэнт, прозвішча ў яго Якімовіч. Я яму адразу сказаў: "Якімовіч, ты адкуль родам? Прозвішча сваё прачытай яшчэ раз". Цяпер, калі такое чую ад беларусаў, прыводжу прыклады студэнтаў з Расіі, якія вучыліся па-беларуску на "выдатна" і слова ніколі не сказалі супраць.

Я даводжу студэнтам: "Вы класна валодаеце беларускай мовай". Таму што некаторыя, слухаючы мяне па-беларуску, канспект пішуць па-руску. А сінхронны пераклад – гэта найвышэйшая кваліфікацыя перакладчыка!

Вядома ж, выкладчыку, які вырашыў весці свой прадмет па-беларуску, давядзецца самому пісаць дапаможнікі і канспекты лекцый.

Я ўвесь час напаўжартам кажу: "Наступны аспірант у мяне будзе толькі беларускамоўны". Але на жаль, усё чакаю таго, каму можна было б перадаць сваю работу па актывізацыі беларускай мовы ў тэхнічных дысцыплінах, якія выкладаю. Старэйшыя беларускамоўныя выкладчыкі паступова сыходзяць на пенсію, а маладыя не надта імкнуцца пераймаць эстафету.

Калі ў мяне пытаюцца пра праблему тэрміналогіі, я кажу: "А няма ніякай беларускамоўнай тэрміналогіі". Уся тэхнічная тэрміналогія – замежная, нават слова "рамонт" – у яго ж французскія карані. Так што калі хтосьці скардзіцца на дрэнна распрацаваную тэрміналогію, я тлумачу гэта толькі нежаданнем пераходзіць на мову.

З калегамі ў мяне сёння няма ніякіх праблем, бо дзве трацiны з іх – мае былыя студэнты. Але быў перыяд, калі папярэдні загадчык кафедры, ваяўніча рускі чалавек, ставіўся да мяне рэзка негатыўна і як да чалавека, і як да выкладчыка. Ён выказваўся нават так:

> "ВОСЬ БЫЎ НАРМАЛЬНЫМ ЧАЛАВЕКАМ – І РАПТАМ ПАЧАЎ ВЫКЛАДАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ!".

Наш рэктар – сам прыхільнік беларускай мовы. Калісьці ва ўніверсітэце былі курсы, якія мусілі прайсці ўсе выкладчыкі, адбываліся навукова-метадычныя канферэнцыі па беларускамоўным выкладанні. На жаль, цяпер праца ў гэтым кірунку звялася да чыстага энтузіязму.

### «ДАВЯЛОСЯ ПЕРАЙСЦІ НА РУСКУЮ ПРАЗ ЗАМЕЖНЫХ СТУДЭНТАЎ»

*Пётр Лопух, дацэнт кафедры агульнага землязнаўства БДУ, кандыдат геаграфічных навук, выкладае па-беларуску гідраграфію Беларусі, гідралогію.*

Выкладаў свае дысцыпліны па-беларуску я з сярэдзіны 90-х. Але з мінулага года давялося перайсці на рускую, бо з'явілася шмат замежных студэнтаў – з Туркменістана, Кіргізіі, Таджыкістана, плануецца, што прыедуць 12 чалавек з Балівіі. Сітуацыя безвыходная. Калісьці ў нас была адна спецыяльнасць – геаграфія, а ў яе межах існавала 5-7 спецыялізацый. Былі паралельныя беларускамоўныя і рускамоўныя групы. Цяпер у нас ажно шэсць спецыяльнасцяў, групы невялікія, падзяліць іх паводле мовы выкладання немагчыма.

На факультэце недзе тры выкладчыкі, якія чытаюць свае дысцыпліны на роднай мове. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт паступова рухаецца да свайго стогадовага юбілею і будзе імкнуцца да статуса нацыянальнага. Безумоўна, трэба, каб беларуская мова гучала ў яго сценах.

Дыпломы на роднай мове часам абараняюцца. Сёлета адзін студэнт, які скончыў гідраметэаралогію, пісаў дыплом па-беларуску. Былі праблемы з правапісам, напрыклад, з ужываннем «Менска» замест «Мінска», я працу прыняў, хоць пераконваў яго выкарыстоўваць замацаваную сёння назву, ён не пагадзіўся, і пасля гэта выйшла бокам. Некалі нашым студэнтам быў Павел Севярынец, ён у дыпломе выкарыстоўваў тэрміны Карскага, што таксама выклікала праблемы. Але ўвогуле, калі студэнт жадае пісаць працу па-беларуску, то любы выкладчык у стане яе ацаніць, тут цяжкасцяў быць не павінна.

**Паводле budzma.org**



Беларуская мова — гэта тое, што не дазволіць пераблытаць алей з алівай.

# ОБУЧАЮЩИЙ ВИЗИТ В ТАЛЛИН

**Объявляется набор участников на обучающий визит «Государственно-частное партнерство для развития электронного правительства».**

28 апреля - 4 мая 2013г. в Таллине (Эстония) состоится обучающий визит «Государственно-частное партнерство для развития электронного правительства».



Обучающий визит организуется в рамках проекта «Электронное управление и информационно-коммуникационные технологии в деятельности организаций гражданского общества» и является продолжением в серии обучающих мероприятий для белорусских участников с целью знакомства с опытом Эстонии в ИКТ сфере.

К УЧАСТИЮ ПРИГЛАШАЮТСЯ ПРЕДСТАВИТЕЛИ ЧАСТНОГО СЕКТОРА БЕЛАРУСИ: ПРЕДПРИНИМАТЕЛИ, БИЗНЕС АССОЦИАЦИИ, А ТАКЖЕ БЕЛОРУССКИЕ НЕПРАВИТЕЛЬСТВЕННЫЕ ОРГАНИЗАЦИИ И ИНИЦИАТИВЫ ГРАЖДАНСКОГО ОБЩЕСТВА.

Организаторами мероприятия являются E-Governance Academy (Таллинн) и Международная некоммерческая организация Пакт. Программа визита включает посещение эстонских государственных и частных учреждений, сотрудничающих в развитии электронных услуг (ICT Democenter, Центр регистров и информационных систем и др.), а также знакомство с разными е-службами: е-Милицией, е-Службой спасения, е-Фондом Здоровья.

Особое внимание будет уделено роли гражданского общества во внедрении электронных услуг: участники посетят Национальный фонд гражданского общества, Народное собрание Rahvakogu и другие некоммерческие организации.

РАБОЧИЙ ЯЗЫК ВИЗИТА – РУССКИЙ.

Отбор участников проводится на конкурсной основе. По итогам поездки от участников будут запрошены отчеты с описанием полезности результатов визита для организаций.

Для участия в конкурсе необходимо выслать резюме (CV) и форму заявки (заявку можно скачать по адресу http://www.ega.ee/ru/node/1007) на эл.адрес pact@pact.org.ua с пометкой в теме письма «e-Governance».

Документы принимаются до 18.00 (по белорусскому времени) 29 марта 2013 года. О результатах отбора будет сообщено не позднее 11 апреля.

ОРГАНИЗАТОРЫ ОКАЗЫВАЮТ ПОМОЩЬ В ПОЛУЧЕНИИ ВИЗ ДЛЯ УЧАСТНИКОВ ВИЗИТА И ПОКРЫВАЮТ ВСЕ РАСХОДЫ ПРЕБЫВАНИЯ В ЭСТОНИИ.

Любые вопросы, связанные с участием в визите, пожалуйста, направляйте на адрес: pact@pact.org.ua.

**dzedzich.org**

# БЕЛОРУССКИЕ БОЛОТА ОТКРЫВАЮТ СВОИ ТАЙНЫ

**А вы знали, что среди «золотой» молодежи наших предков было модно топиться в болоте, посвящая себя Болотной Богине? Бросать туда ценные вещи вроде статуй, украшений и новейших на тот момент i-мечей и i-секир? Белорусские болота таят много интересного.**




## ВО ГЛУБИНУ ВЕКОВ

***Как низко нужно опуститься археологу, чтобы докопаться до истины?***

*«30-40 сантиметров болотистой поверхности порой хватает»* – говорит **Микола Кривальцевич**, кандидат исторических наук, старший научный работник Института истории НАН РБ.

История болот – это история человека, и если мы хотим её знать, порой нужно основательно испачкаться. Почему? Потому что специфика исследования такая.

«Мокрая» археология – это раскопки на затопленных участках, на границе с водой. Именно там, на белорусских болотах, находят, изучают и потом нам рассказывают про поселения возрастом 4-3 тысячи лет до нашей эры.

## ГОРШОЧЕК КАКОЙ-НИБУДЬ ПОД НОГОЙ – ХРУСЬ!

Территории эти раньше были приозерные, теперь – болото, но именно в нем находится исторический пласт жизни наших предков. Работа в таких условиях требует серьезных финансовых вложений, чтобы обеспечить нужную технику обращения с хрупкими древностями.

Немцы используют специальные платформы, с которых археологи работают, не заходя в само болото. У нас, конечно, все проще и брутальней: *«Ступишь сапогом и погрузишься вниз лет на 200-300 (это значит на пару десятков сантиметров)»* – улыбается Максим Чернявский, кандидат исторических наук Института Истории НАН Беларуси, который проводит исследования на старинных поселениях Крывинского торфяника возле Бешенковичей.

И конечно, это небезопасно для находящихся там ценных предметов: *«Горшочек какой-нибудь под ногой – хрусь!»*.

На данный момент все сокровища в болотах найдены случайно, по следам осушения. Но это варварский подход, в процессе которого уничтожается больше, чем находится.

## НА КАЖДОЕ БОЛОТО – СВОЙ ДРАКОН

По словам Ирины Климкович, исследовательницы белорусского фольклора и автора книг по белорусской мифологии, древние жители белорусских земель верили, что в болотах живут драконы.

Именно останки этих мифических животных ныне пытаются найти археологи, а попутно находят много разных полезных и удивительных вещей: самые ранние беларусские инструменты (флейта-жалейка), рыбацкие сети из ткани, посуду из черепах, предметы искусства, идолов, амулеты и украшения (к примеру, янтарные бусы в идеальном состоянии, просто прет-а-порте, ещё и цвете таком, каким он был изначально) и так далее.

Уникально, невероятно, но – факт.

А все потому, что торф хранит попавший в него материал, предотвращая доступ кислорода, а, следовательно, – разложение.

Важнейший носитель информации о прошлом для археолога – органика, то есть, кость, дерево, предметы искусства сохраняются в своем исходном виде практически безупречно. Более того, по пыльце растений, сопровождавших человека и его деятельность и сохранившейся там же, в торфе, можно узнать, чем занимались люди многие века назад.

## ЧТО ДЕЛАТЬ?

По всему выходит, болото – это бесценное поле для исследования, летопись развития природы региона и всей страны. Терять подобное наследие кажется расточительством, особенно в наше время, когда основы национальной идеи все больше размываются и расшатываются.

*«Чтобы стоять, я должен держаться корней»* – пел многоуважаемый и просветленный Борис Гребенщиков. А где наши корни, белорусы? В болоте. Нельзя давать их в обиду, стоять не сможем.

Что же можно сделать?

Во-первых, узнать больше о восьми уникальных болотах, которые мы можем потерять ради торфа, например тут: **eightwetlands.by**.

Познакомиться с общественной кампанией в защиту болот (**bezbolot.net**).

Подписать петицию за сохранение болот можно здесь: www.change.org, «Адкрыты зварот у абарону беларускiх балот».

**ampby.by**

# ГОРАЦКАЕ ПАЎСТАННЕ

**У 1918-м па Беларусі разлілося мора сялянскіх паўстанняў. Самавольства бальшавікоў, злоўжыванні іх харчатрадаў, ЧК, ячэек РКП(б), якія часта складаліся з выпадковых людзей з крымінальнымі схільнасцямі, стварылі аснову для акцый масавага непадпарадкавання, узброеных выступленняў.**

У Гомельскім архіве нядаўна знайшліся дакументы, якія праліваюць святло на падзеі сакавіка 1918 г. у Горках Магілёўскай губерні.

Як толькі даследчыкі атрымалі доступ да адпаведных крыніц, укаранёны савецкімі падручнікамі міф аб «трыумфальным шэсці» савецкай улады адразу і пасыпаўся.

Магчымасці рэканструкцыі гісторыі змагання за ўладу ў Горках пакуль абмяжоўваюцца некалькімі дакументамі. Асобныя фрагменты Горацкага паўстання выкладзены ў матэрыялах Горацкай ЧК і Магілеўскай губернскай следчай камісіі пры Рэвалюцыйным Трыбунале аб «контрарэвалюцыйным выступленні 6–7 сакавіка 1918 г. у горадзе Горках».

Пачатак сакавіка 1918 года быў неспакойным. Фронт хутка набліжаўся. 19 лютага немцы занялі Мінск, 1 сакавіка — Гомель, Магілёў.

У Горках і паведе большасць жыхароў лічыла бальшавіцкі рэжым часоваю з'яваю, непрымальнаю і небяспечнаю — вось-вось здадуць горад немцам.

Хісткая савецкая ўлада шукала сабе апору, намагалася забяспечыць хоць нейкае падабенства легітымнасці і прызнання. На 5 сакавіка мясцовы, бальшавіцкі па складзе выканкам прызначыў 4-ы з'езд рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў Горацкага павета. Сабраліся 33 дэлегаты, але фронт быў ужо на падыходзе, і арганізатары абвясцілі аб адмене мерапрыемства. «Для абароны інтарэсаў працоўных» саветы аб'явілі запіс добраахвотнікаў на фронт.

Выканкам «са стратэгічных меркаванняў» вырашыў пакінуць горад і перабрацца ў фальварак Собалева.

Але зрабіць гэта было не так проста.

Ад канца лютага ў Горках, патрабуючы выплаты заробкаў, бунтавалі рабочыя. Калі яны даведаліся, што выканкам пакідае горад, дык вырашылі не даць камісарам збегчы, пакуль тыя не аддадуць грошы.

Выканкам вымушаны быў узяць пазыку ў грамадскіх арганізацый горада, выплаціць заробкі рабочым і толькі пасля гэтага выехаў. Уцекачы яшчэ не паспелі даехаць да фальварка, а ў Горках ужо быў абраны выканкам у новым складзе: без бальшавікоў. Цэнтрам паўстання ў Горках стаў Камітэт самаабароны.

Яго стварэнне ініцыявалі напярэдадні самі бальшавікі. У канцы лютага, з улікам пагрозлівай сітуацыі на фронце, бальшавіцкі выканкам склікаў нараду з прадстаўнікоў грамадскіх дэмакратычных арганізацый. Было прапанавана арганізаваць Камітэт самаабароны. Камітэт хутка паўстаў, аб'яднаўшы людзей аўтарытэтных і ўплывовых.

Бальшавікі, шукаючы паратунку ад немцаў, прапанавалі Камітэту заняцца пытаннямі арганізацыі адпора ворагу, пакінулі «абаронцам» 70 вінтовак і 600 патронаў. Такім чынам, саветы самі паклапаціліся аб забеспячэнні паўстанцаў зброяй.

У Камітэце вызначылася група, якая таемна падрыхтавала змену ўлады ў горадзе, арганізавала перавыбары выканкама і фармаванне ўзброеных частак для супраціву чырвонаармейскім атрадам. Згодна з высновамі ЧК, групу «контрарэвалюцыянераўзмоўшчыкаў» узначаліў нехта А. Л. Рубанаў. Звестак пра яго больш не падаецца, толькі згадваецца факт яго ўдзелу ў паўстанні «з вінтоўкаю ў руках».

### ПРЫГОДЫ ТАВАРЫША МАІСЕЕВА

Праз два дні, 6 сакавіка, да фальварка Собалева дайшлі звесткі, што ў Брэсце была падпісаная дамова аб спыненні ваенных дзеянняў з немцамі. Выканкам зазбіраўся назад. Але папярэдне ў Горкі накіраваўся старшыня выканкама, бальшавік Маісееў, каб паведаміць Камітэту самаабароны, што»законная» ўлада вяртаецца.

У Горках, аднак, «саветчыкаў» не чакалі. На вуліцах збіраліся вялікія натоўпы, на мітынгах людзі абураліся паводзінамі савецкай улады, выказвалі ёй недавер. Як сведчаць матэрыялы следства ЧК, таварыш Маісееў выпадкова трапіўся на вочы ўдзельнікам такога мітынгу. Раз'юшаныя людзі кінуліся да яго з крыкамі: «Рабаўнік!» *«Каб пазбегнуць самасуду гэтага натоўпу Маісееў пабег у Камітэт самаабароны ў спадзяванні там схавацца»*, — перадае драматызм сітуацыі следчая справа. Выйшла наадварот: праз пару хвілін у будынак Камітэта ўварваўся натоўп… Збітага да паўсмерці Маісеева раззлаваныя гараджане звалаклі ў горацкую турму.

Калегі-бальшавікі, даведаўшыся на наступны дзень аб расправе, вярнуліся ў Горкі з атрадам чырвонаармейцаў і вызвалілі свайго начальніка. Але прыбыццё карнага аддзела толькі падштурхнула гараджанаў да фарміравання ўзброеных атрадаў.

### САПРАЎДНАЯ ГІСТОРЫЯ КАМІСАРА ПАГОДЗІНА

Следчыя дакументы Горацкага паўстання адкрываюць рэальную гісторыю гібелі камісара Сцяпана Пагодзіна, савецкага кананізаванага героя, арганізатара першага мясцовага чырвонаармейскага атрада.

У сучасных Горках адна з вуліц і чыгуначная станцыя носяць яго імя. На прывакзальнай плошчы стаіць яму бюст.

Пагодзін быў тутэйшы, нарадзіўся ў вёсцы Гушчына Горацкага павета.

Вось што кажа афіцыйная версія подзвіга і гібелі Пагодзіна. Калі фронт наблізіўся да межаў павета, ваенны аддзел выканкама і чырвонаармейскі аддзел пад камандаваннем Пагодзіна перадыслакаваліся ў Собалева, «бліжэй да лініі фронта» (насамрэч Собалева — усходней Горак). За тыя некалькі дзён, што камісар з аддзелам адсутнічаў «пачалі падымаць галовы мясцовыя багацеі і іх паслугачы».

14 сакавіка, піша афіцыйная біяграфія, «ворагам рэвалюцыі» ўдалося арыштаваць членаў Камітэта самаабароны. Але на наступны дзень атрад Пагодзіна вызваліў іх з турмы. Падчас аперацыі ваенкам быў смяротна паранены.

Так у 28 год «абарвалася жыццё палымянага рэвалюцыянера».

Следчая справа ўдзельнікаў паўстання, якую падрыхтавала горацкая ЧК і 25 верасня 1919 г. прадставіла ў Ваенрэўтрыбунал, сведчыць, што атрад Пагодзіна вярнуўся ў Горкі 7 сакавіка, пасля атрымання інфармацыі аб Брэст-Літоўскай дамове. І вызваліў ён не «членаў Камітэта самаабароны», а старшыню выканкама Маісеева, які легкадумна трапіў у рукі паўстанцаў. Бо Камітэт самаабароны якраз і быў арганізацыйным цэнтрам паўстання. Пагодзін сутыкнуўся з узброеным аддзелам паўстанцаў.




**Помнік камісару Пагодзіну, забітаму паўстанцамі, на чыгуначнай станцыі ў Горках.**

«Калі ваенны камісар Пагодзін звярнуўся да «белагвардзейскага» натоўпу з крыкам «Разайдзісь!», то з яго адбыўся стрэл, якім і быў забіты тав. Пагодзін…» — так перадае падрабязнасці следчая справа. Такім чынам камісар загінуў не 14 сакавіка, а 7-га, спрабуючы лямантам уздейнічаць на людзей, якія варожа сустрэлі яго вяртанне ў горад.

### ПАЎСТАННЕ ТРЫМАЛАСЯ НЕ ДВА ДНІ

Зразумеўшы, што сілы няроўныя, Маісееў і член выканкама тав. Бардухаеў уцяклі назад у Собалева, а адтуль накіраваліся за дапамогаю на станцыю Краснае.

Назад яны вярталіся з 1-м конным Аршанскім аддзелам на чале з начальнікам штаба Сцяпанавым, які меў загад ліквідаваць паўстанне.

На 5-м з'ездзе саветаў Горацкага павета 15 сакавіка Маісееў зрабіў даклад аб контрарэвалюцыйным выступленні ў горадзе Горкі 6 і 7 сакавіка, пералічыў 29 чалавек, якія арганізавалі пераварот у горадзе.

Афіцыйныя крыніцы настойліва падкрэсліваюць, што паўстанне пачалося і завершылася на працягу двух дзён.

Але савецкая ўлада вярнулася ў Горкі толькі ў абозе 1-га коннага Аршанскага атрада, напярэдадні 5-га з'езду. Сам Маісееў 7 сакавіка быў яшчэ ў дарозе. За адну ноч ён фізічна не змог дастацца ў Краснае і вярнуцца ў Горкі з карным аддзелам. Згодна з афіцыйнай гісторыяй камісара Пагодзіна, ён быццам бы вярнуўся ў Горкі 14 сакавіка. Але яго на гэты момант не было ў жывых.

Магчыма, тут простая блытаніна: 14 сакавіка ў горад увайшоў аддзел пад камандаваннем Сцяпанава. З гэтага вынікае, што паўстанцы гаспадарылі ў горадзе амаль паўмесяца.

На момант перадачы справы ў губернскі ваенрэўтрыбунал арыштаваныя былі толькі чатыры фіґуранты падзей — Ждановіч, Кандраценка, Мікалаеў, Вязаў.

Астатнія разбегліся, некаторыя хаваліся за мяжой.

У наступным, 1919-м, у маі, паўстанне ахопіць некалькі дзясяткаў вёсак Горацкага павета. Зноў прамільгне імя Сяргея Вязава.

Сялянскі фронт змагання з саветамі вылучыць новых лідараў — братоў Карпа і Пятра Пруднікавых з вёскі Аўсянка, братоў Мікалая і Пракопа Піменавых з Гарадзішча, Данііла Іванова з Ліхачова…

Але гэта наступная гісторыя.

**Паводле: nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Вовачка вельмі хацеў цукерку, але аддаў яе Машы, таму што Машу ён хацеў больш.

***

Бедныя дзеці: як жа яны змогуць біцца на пераменках электроннымі кнігамі.

***

Калі ты падбярэш галоднага сабаку і зробіш яго жыццё сытым, то ён цябе ніколі не ўкусіць. У гэтым прынцыповая розніца паміж сабакам і чалавекам.

© Марк Твен

***

Ты ніколі не заробіш грошай, калі думаеш, што іх зарабляюць.

***

- Дзяўчына, я магу навучыць Вас мастацтву кахання...
- І колькі Вы маеце намер патраціць на маю адукацыю?

***

«Здам кватэру на 5-7 гадоў, у залежнасці ад рашэння суда».

***

Калі чалавека кусае вампір, ён становіцца вампірам. Такое адчуванне, што вельмі шмат каго вакол пакусалі бараны...

***

Размаўляюць два суседа:
- Чуў як мая сёння ўначы стагнала? Вось як трэба!
- Ды ты яшчэ не чуў як яна стогне, калі цябе дома няма!

***

Запісаўся на курсы гіпнозу. Першы занятак не спадабаўся, таму я вырашыў заплаціць адразу за год наперад і больш туды не хадзіць.

***

Прыходзіць міліцыянт на працу голы. Яго пытаюць:
- Што здарылася, Вася, чаму ты голы прыйшоў?!
- Ды вось… разумееце, учора ў начны клуб зайшоў…
- Ну і?
- Ну і вось. Таньчым, тусуемся, усё як звычайна. І тут дыджэй спыняе музыку і аб'яўляе: «Цяпер мы гасім святло на 30 секунд. І мужчыны распранаюцца!» Уключаюць святло праз 30 секунд - усе мужыкі голыя!
- Прышпільна! А далей?
- Дыджэй ізноў кажа: «Цяпер я гашу святло на 30 секунд, і ўсе дзяўчыны распранаюцца!»
- Ого!
- Уключаюць святло і ўсе дзяўчыны голыя!
- Адпад! А далей што?
- А потым дыджэй кажа: «Цяпер я гашу святло на 30 хвілін і мужчыны прыступаюць да працы!»
- І што?
- НУ ВОСЬ Я І ПРЫЙШОЎ НА ПРАЦУ!

***

Сярод супрацоўнікаў міліцыі правялі тэст на кемлівасць. Сутнасць тэсту: у металічнай пласціне выразаны адтуліны рознай формы (квадрат, круг, трыкутнік і т. д. ), у іх трэба ўставіць металічныя прадметы адпаведнай формы. Па выніках тэсту супрацоўнікі міліцыі падзяліліся на дзве групы:
1. Тупыя.
2. Вельмі моцныя.




**1. Сіняя кветка, расце ў жыце 2. Дзіця мужчынскага полу 3. Той, хто крадзе 4. Дарожка для пешаходаў 5. Інертны газ для рэкламных трубак 6. Наказ нашчадкам 7. Хвароба страўніка 8. Крытая дарожная павозка 9. Салодкі напітак 10. Злучэнне ваенных караблёў 11. Эскадраны мінаносец 12. Акісленне вышэйшай ступені 13. Пакінула месца жыхарства 14. Адзінка вымярэння часу 15. Каштоўны метал 16. Гультай, абібок (разм.) 17. Кальцо для зацісканыя 18. Выразаны малюнак 19. Лясы, палі, горы і г.д. 20. Духі, адэкалон 21. Абдуманасць, разважлівасць 22. Мастацкі выраб з нітак 23. Музычны урачысты сігнал 24. Работнік вагоннай майстэрні 25. Матэматычнае палажэнне 26. Заўвага, памета на палях 27. Пераўтварэнне, змена 28. Незвычайная, рэдкая з'ява 29. Чаргаванне напеўных гукаў 30. Ручны футбол**

Пытанне з крыжаванкі: - На якую гарадскую службу рэзка павялічваецца нагрузка ў хвіліны тэлерэкламы? Адказ: - Каналізацыя.

***

Ужо ў дзяцінстве Сталін быў не падобны на масу сваіх аднагодкаў. Калі ўсе гулялі ў вайнушку, ён страляў у спіны тым, хто пабег дахаты абедаць.

***

— Дзяўчына! Можна вас на хвіліначку?
— Слабак…

***

– Сынок, з Днём абаронцы Айчыны цябе!
– Ды годзе табе, тата, можа я яшчэ паступлю.

***

Вельмі тоўсты мужчына звярнуўся ў кантору, якая абяцала «Губляй 10 кг і нават больш за 5 дзён!».

На наступны дзень, да яго ў дзверы пагрукала ашаламляльная красуня, на якой былі толькі ружовыя красоўкі Найк і значак на шыі «Калі зловіш мяне - я твая!»

Мужчына бегаў за ёй 5 дзён, так і не злавіў, але сапраўды страціў 10 кг. Вынік яму спадабаўся і ён спытаў, ці можна страціць 20 кг за 5 дзён. Яму сказалі, што можна, і на наступны дзень да яго прыйшла яшчэ больш ашаламляльная прыгажуня толькі ў ружовых красоўках са значкам «Калі зловіш мяне - я твая!»

Мужчына бегаў за ёй 5 дзён, але так і не злавіў, але сапраўды страціў 20 кг. Мужчына радасны як немаўля тэлефануе ў кантору і пытае, а ці можна страціць 30 кг за 5 дзён?

На наступны дзень да яго ў дзверы пагрукаў здаравенны напампаваны мужык толькі ў ружовых стрынгах са значкам «Калі я злаўлю цябе, ты мой!»

У гэтыя 5 дзён мужчына страціў 60 кг.

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
- **Распаўсюджваецца бясплатна**
- **Падпісана ў друк** 22.03.2013 года у 18-00
- **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
- **Гарнітура** Helios
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
- **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
- **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
- Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Наклад** 299 асобнікаў

**№3(81) • САКАВІК 2013**